Народная Воля

22 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.

# Папараць-кветка ўзышла...

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

## Папараць-кветка

Вера ў цудоўную Папараць-кветку — нацыянальная рыса нашых продкаў. Вядома, што Папараць квітнее толькі адну гадзіну на Купалле — апоўначы. Вось як, па ўяўленнях продкаў, гэта адбывалася. З шырокага лістоўя раптоўна з'яўляецца пупышка — зародак кветкі, якая падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Роўна апоўначы пупышка-накавець з трэскам лопаецца. Вочы бачаць ярка-вогненную Папараць-кветку, такую зіхотную (амаль як сонца!), што на яе балюча глядзець. Усё гэта адбываецца пад гігіканне іляскат лясной нечысці, якая прагне не дапусціць чалавека да авалодання цудам. Праз гадзіну нябачная рука зрывае Папараць-кветку, чалавеку і амаль ніколі не ўдаецца зрабіць гэта. Той, каму ўдавалася амаль немагчымае — пераадолець жах і не ператварыцца ў каменны слуп, атрымліваў дар заставацца самім сабою перад самым магутным валадаром, набываў талент уцяміць самую найскладанейшую навуку. Перад тым, хто завалодваў Папараць-кветкай, адкрываліся ўсе таямніцы свету, усе скарбы зямлі, веданне мінулага і будучыні. Папараць-кветка надавала таксама яе валадару дзівосныя сексуальныя магчымасці.

Ад аднаго разумнага чалавека пачуў: "Купальская ноч — самая кароткая ў годзе. На яе працягу трэба многа паспець зрабіць. І пераскокнуць цераз вогнішча, і ў лесе пашукаць кветку, пра якую складзена столькі легендаў і песень, і знайсці свайго суджанага. Трэба паспець адагнаць ведзьмаў ад сваёй хаты і выгнаць іх са свайго жыцця. Таму выкідвайце чорныя думкі са сваёй душы, вычысціце яе зацягнутыя павуціннем куткі і з чыстым сумленнем ідзіце святкаваць Купалле. Яно ж бывае толькі раз у годзе. У такую ноч грэх спаць". То сапраўды так!

## Іван Купала

Пасля таго як ганіцель хрысціянства на ўсходзе Еўропы — кіеўскі князь Уладзімір — які, акрамя іншага), славуты прынашэннямі жыццяў тагачасных кіеўскіх хрысціян у ахвяру драўляным ідалам, пераследуючы палітычныя мэты, перакінуўся ў новую веру і насіллем ахрысціў насельніцтва сваёй і залежных ад Кіева суседніх краін (за што атрымаў ад рускай праваслаўнай царквы статус святога, раўнаапостальнага), духоўны свет нашых прародзічаў-стыхіяпаклоннікаў перавярнуўся. Усе раней зразумелыя і блізкія багі і бажкі аказаліся забароненымі, а ім на змену агнём і мечам усталёўваліся чужыя і незразумелыя. Праваслаўная царква, каб зменшыць непрыняцце людзьмі новай рэлігіі і паскорыць пранікненне "слова Божага" ў сэрцы і душы новых хрысціян, выкарыстала здаўна добра асвоеныя прыёмы: пераапрананне старых багоў у новыя "хрысціянскія" вопраткі і пакрыццё паганскіх (ад лац. pagani — сельскія жыхары) святаў сонечнага цыклу хрысціянскімі. Так Каляда стала Нараджэннем, Вялікдзень — светлым Уваскрэшаннем Хрыстовым. Пасля хрышчэння Русі Вялес — бог хатняй жывёлы, заступнік пастухоў і земляробаў — атрымаў новы "пашпарт" і стаў св. Власіем, які працягвае "курыраваць" жывёлагадоўлю, земляробства. Сведчу, што яшчэ ў шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя на Старобіншчыне (а жонка падказвае, што і на Вушаччыне) "памяркоўныя" беларусы, з крыжыкамі пад кашуляй, пад канец жніва з краю палетка абавязкова пакідалі купку няжатых сцяблін з каласамі — "вялесаву бараду" — падарунак Вялесу (Воласу).

Дажбога — бога Сонца "пераапранулі" ў св. Георгія Пабеданосца. Гэтае новае ўвасабленне старажытнага бога таксама стала апекуном-заступнікам. Але ўжо не земляробаў-палесавікоў, а нашага "победоносного" суседа — рускай дзяржавы. Але толькі суседзі не таго апякуна абралі, бо "побед" у іх аж занадта, ды дабрабыту мала.

Не думала, не спадзявалася св. вялікапакутніца Параскева (Пятніца), якую ў III стагоддзі закатавалі рымляне за адмову прынесці ахвяру ідалам, што праз многія стагоддзі пасля пакутніцкай смерці ёй самой на славянскіх абшарах наканавана выконваць ролю Макошы — паганскай багіні хатняга вогнішча, жаночага рукадзелля. Той самай, ідал якой стаяў у старажытным Кіеве. Зараз праваслаўныя лічаць Параскеву апякункай хатняй гаспадаркі і жаночых клопатаў.

Зразумела, што любімае ў народзе свята Купалля — эратычнае, хмельнае і разгульнае адначасова — не магло застацца без увагі хрысціянскіх начальнікаў. Так сталася, што якраз праз два дні пасля летняга сонцапавароту — 24 чэрвеня — ў хрысціянскім календары вялікае свята — Нараджэнне справядлівага, слаўнага Прарока, Папярэдніка і Хрысціцеля Гасподняга Іаана (Яна). Насуперак таму, што бог Купала і св. Ян Хрысціцель, як бы лепей мовіць, розныя асобы, царкоўныя разумнікі вырашылі замясціць першага другім. У выніку атрымалася праваслаўнае (паганска-хрысціянскае?) свята Івана Купалы (!). Як казаў вядомы газпрамаўскі дасціпнік, хацелі як лепей — атрымалася як заўжды!

Улічваючы, што юльянскі каляндар, якім да сённяшняга дня карыстаецца руская праваслаўная царква, недасканалы (роўна як той дзедаўскі гадзіннік) і "тармозіць" адносна нябеснага часу ўжо аж на 13 дзён (калі гадзіннік адстае на паўгадзіны, то яго нясуць у майстэрню, а ўзяць ды "адрамантаваць", проста падагнаць каляндар да сучаснага маскоўскім царкоўным чыноўнікам мабыць "візантыйскі" гонар не дазваляе?), то артадоксы зараз святкуюць Івана Купалу (і "макаўку года" разам з ім) праз два тыдні пасля летняга сонцапавароту — аж 7 ліпеня. Але смяяцца з гэтага — грэх! Шкада толькі маладзёнаў, што на Івана Купалу шукаюць Папараць-кветку... а яна ўжо даўно адквітнела.

Але для святкавання Івана Купалы праблема "7 ліпеня" — другасная, тэхнічная, калі не сказаць — геранталагічная. Апошняе — у сэнсе таго, што асобы з Сіноду РПЦ, у кампетэнцыі якіх "рамонт" праваслаўнага календара, наўрад ці ўжо памаладзеюць. Галоўнае — зусім у іншым...

Св.Параскева-Макоша (праваслаўны ідал).

Ян Папярэднік (ікона 2-й паловы XIX ст.).

## Помста

У часы хрысціянскага ганьбавання паганскіх багоў з'явілася прымаўка: "Узяў боажаньку за ножаньку, за галень — ды аб пень". Але нішчанае, апляванае паганства не дало сябе забыць. Яно і па сённяшні дзень вакол нас і ў нас. Яго магутная энергетыка, без сумневу, існуе і сёння. Насуперак спадзяванням царкоўных "спецыялістаў" па замяшчэнні і пакрыцці паганскіх святаў хрысціянскімі, адбылося ўсё наадварот. У 1551 годзе сабор маскальскай праваслаўнай царквы б'е трывогу з прычыны апаганьвання хрысціянскага свята: "против праздника Рождества великаго Іоанна Предтечи, и в ночи на самый праздник, и в весь день и до нощи, мужи и жены и дети в домах и по улицам ходя и по водам глумы творят всякими играми, и всякими скомрашествы, и песни сатанинскими и плясками, гусьми... И егда нощь мимо ходит, тогда отходят к роще с великим кричанием, аки бесы омываются росою". Зразумела, што мінулыя з таго часу стагоддзі не дадалі хрысціянскага "благочестия" святкаванню Івана Купалы. Усяго і зменаў, што замест купальскага кола нечыя неўдалугі па сваёй ляноце пачалі паліць аўтамабільныя шыны і атручваць смуродам наваколле.

Каб зразумець глыбіню роспачы шчырых хрысціянаў, тых, каму млосна ад "акупальвання", апаганьвання Янавага (Іванавага) дня, то трэба ўсвядоміць ролю асобы св. Яна Хрысціцеля ў станаўленні хрысціянскага светапогляду.

Аб прароку Яну Хрыстос сказаў: "З народжаных жанчынамі не паўставаў большы за Яна Хрысціцеля" (Мц. 11:10-11). Св. Ян праслаўляецца царквой як "анёл, і апостал, і мучанік, і прарок, і свечнік, і сябра Хрыстоў...". І сапраўды, жыццё і смерць гэтага Чалавека ўражваюць! Ён адзін з нямногіх, хто змог паставіць сваю *ідэю* вышэй за *дабрабыт*, а калі выпадзе дрэнная доля — то вышэй і за сваё *жыццё*. Ён адзін з *меншасці* тых, каторыя не здатны гнуць хрыбет, падкладваючыся — "чево изволите?" — з-за дробязных выгод, а маюць гонар і сваю *праўду*, якую *большасць* не любіць. За тую *праўду* заўжды падвяргаюць згубе, але яна, як горкія лекі, патрэбна хвораму грамадству. Так было дзве тысячы гадоў таму ў Іудзеі, так ёсць сёння на Беларусі.

Сваю *праўду* Ян Хрысціцель пачаў даводзіць да людзей, калі яму сталася 30 гадоў. Прарок прадказваў блізкі канец існага парадку жыцця, які задавальняў *большасць*. Ён дакараў свой народ за хлуслівасць, бездухоўнасць, дэградацыю. Хоць сам Хрыстос прыняў хрышчэнне ад Яна, апошні сказаў пра сябе: "Я — марны лямант у пустыні" (Ян. 1:23). Ці не тое ж мовіў бы ён і сёння сярод нас?

Ян Хрысціцель быў арыштаваны за тое, што прынародна дакараў мясцовага царка — *рымскага стаўленіка* ў Іудзеі — Ірада Анціпу). Пасля доўгага зняволення Хрысціцель быў пакараны смерцю. Адсечаную Янаву галаву паднеслі ў чашы падчарыцы царка — Саламеі).

Чытач зараз павінен пагадзіцца, што больш бязглуздае словаўтварэнне, чым "Іван Купала", цяжка ўявіць. Бо Купала і Ян — гэта цела і душа, гэта тутэйшы стракаты луг і іярданскія жоўтыя пяскі, гэта соль зямлі і дыханне неба. Кожны з іх — гэта асілак сваёй веры. Купала і Ян — розныя праявы чалавечага, і кожны з іх паасобку патрэбен нам. Але як жа магло стацца, што іхнія імёны — сімвалы розных жыццёвых падыходаў і светапоглядаў — да абразы недарэчна злучылі ў адно?

Але як бы то ні было, помста бога Купалы — зліццё паганскага і хрысціянскага ў адзіную сумесь — двухвер'е — здзейснілася. Гэта факт неабвяржны, бо двухвер'е (а іншы раз і трохвер'е — сінтэз паганскага, хрысціянскага і бальшавіцкага) — паўсюдна! Бабця жагнаецца, бо шлях перабег чорны каток: "Святы Мікола... А што б цябе, кацяру, Пярун лясну!" Дзядок носіць крыжык, а пнецца "расстрелять на месте" іншадумцаў. Іконы — бы тыя ідалы — то "плачуць", то "лечаць" ад усялякай трасцы... Даследчыкі ўзаемаадносін культаў сцвярджаюць, што гэтае двухвер'е — праваслаўе! Можа, яно і так, можа — не, але нас тут цікавіць іншае...

## Адраджэнне

Развіццё беларускай нацыі немагчымае без росту цікавасці да мінуўшчыны, да звычаяў продкаў. І гэты рост наглядаецца. Але ёсць рызыка, што цікавасць тая будзе задаволена скажонымі падробкамі, сурагатнай недарэчнай блытанінай (дзе-нідзе гэта ўжо адбываецца). Адраджэнню Купалля патрэбна наша агульная ўвага. Гэтае пытанне не культавае. Гэта пытанне нацыянальнай культуры, беражлівага стаўлення да спадчыны сівых вякоў. Лічу, у перспектыве патрэбна, так бы мовіць, аперацыя па раз'яднанні "Івана Купалы" на два святы. 22 чэрвеня — агульнанацыянальнае свята Купалле. А для вернікаў 24 чэрвеня (праваслаўныя, каталікі, пратэстанты і іншыя) і 7 ліпеня (ісцінна праваслаўныя) — Дзень нараджэння Яна Хрысціцеля. На маю думку, пасля скасавання бальшавіцкіх святаў — дзён 1 мая і 7 лістапада (а гэта абавязкова здарыцца), прапанова аб наданні Купаллю рангу нацыянальнага свята на Беларусі стане актуальнай. *Мы павінны вярнуць свае свята, што шанаваліся стагоддзямі!* А раз'яднанне "Івана Купалы" на два святы будзе адкрываць для некаторых з нас і новыя магчымасці: саграшыўшы на Купалле, можна будзе павініцца св. Яну Хрысціцелю 24 чэрвеня ці 7 ліпеня!

Цікавы вопыт нацыянальнага святкавання "макаўкі года" мае Латвія. Цяжка паверыць, але факт — галоўнае свята ў Латвіі — не ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня, як у нас, а ў ноч з 23 на 24 чэрвеня — Ліга. Латышы святкуюць Ліга больш апантана, чым Новы год. Латвійскі парламент "выдзеліў" пад гэтае свята два непрацоўныя дні. На гэтыя дні ўся краіна спыняе працу і як бы крыху вар'яцее: усе з'язджаюць з гарадоў у вёскі, бліжэй да прыроды, п'юць піва, ядуць кменны сыр і святкуюць, святкуюць... Само святкаванне ў многім нагадвае наша: хлопцы і дзяўчаты шукаюць Папараць-кветку. Ліга ў Латвіі такое ж незабыўнае свята, як у Бразіліі карнавал... Можа, і ў нас усё гэтак будзе?

*Наваполацк.*

---

**ВОКРУГ ЕВРО-2004**

## Сколари доволен своей любовницей

"Любовница Луиса Фелипе Сколари не подвела бразильца. В матче с Испанией она смотрелась превосходно". Именно с такими словами вышли многие португальские СМИ после матча Португалия—Испания, в котором хозяева Евро-2004 одержали такую нужную им победу — 1:0. А всё дело в том, что перед матчем Сколари сравнил свою команду с любовницей, которая должна постоянно приводить себя в порядок. Чтобы Сколари был доволен!

"Я раньше проводил с игроками по 2-3 дня на сборах и думал, что все в порядке. Теперь, после нескольких десятков дней, которые мы провели вместе, я понял одну интересную вещь. Моя команда всё равно что женщина. Женщина, с которой мужчина просыпается утром и видит её без косметики, то есть истинное лицо и не очень симпатичное. Затем, когда она приведет себя в порядок, красота возвращается к ней. Так и нашу команду необходимо постоянно приводить в порядок", — заявил Сколари.

При этом, заметьте, Луис Фелипе говорил о красоте искусственной, то есть той, которую надо "наводить". Значит, красоты внешней у Португалии Сколари не видит. Все это, конечно, шутка, но и в ней есть доля правды. Например, в игре с командой России Сколари был "любовницей" недоволен. А вот с Испанией "подруга Сколари" проявила себя во всей красе.

"Я доволен. Португалия показала все самые лучшие качества", — заметил после матча довольный Сколари. Кстати, сразу же после победы своей команды над Испанией бразилец заявил, что по-прежнему ставит перед собой цель вывести команду в четверку лучших сборных Европы.

*Удовлетворенный любовник Филипе Сколлари.*

## Олич уличен в употреблении допинга

**Форвард сборной Хорватии Ивица Олич избежал наказания за употребление допинга, сообщает официальный сайт УЕФА. В организме футболиста был найден метилпреснисолон. Положительный результат дала проба после матча с Францией, который состоялся 17 июня.**

Однако Контрольно-дисциплинарный комитет УЕФА не стал наказывать игрока, не усмотрев в его действиях вины. Таким образом, он сможет завтра сыграть против Англии.

При этом наказание понесет Хорватская федерация футбола. Она обязана будет выплатить штраф в 6600 евро за нарушение прохождения процедуры допинг-контроля. Предупреждение от УЕФА получил Зоран Бахтияревич, врач, ответственный за антидопинговые меры в федерации. Борис Немеч, врач, работающий с Оличем, получил выговор.

Олич избежал наказания, так как запрещенный препарат, тот самый метилпреснисолон, содержался в обезболивающем средстве, которое футболист принимал после товарищеского матча против Дании, состоявшегося 5 июня. Тогда он получил травму ребер. Если бы врачи сборной Хорватии своевременно сообщили УЕФА о том, что Олич принимал препарат, скандала бы вообще не возникло.

У Хорватской федерации футбола есть три дня на подачу апелляции.

## Журналисты разозлили Вьери

Форвард сборной Италии Кристиан Вьери отказался общаться с итальянской прессой, сообщает официальный сайт чемпионата Европы. Вьери был возмущен статьями в двух итальянских газетах, которые всему миру рассказали о его проблемах во взаимоотношениях с вратарем Джанлуиджи Буффоном. "Этим последним своим изобретением вы исчерпали мою чашу терпения. Сегодня последний день, когда я с вами разговариваю. Пока вы писали обо мне как о футболисте, все было нормально. Но когда вы затронули мои человеческие качества и обидели меня... По человеческим качествам я лучше вас всех, вместе взятых", — сказал возмущенный Вьери.

Вьери попал под огонь критики после того, как не смог забить в паре моментов матча со шведами, а затем не смог выбить мяч из ворот, когда забивал Златан Ибрагимович. В результате шведы добились ничьей, а итальянцы всерьез рискуют вылететь с чемпионата уже после группового этапа.

Если шведы сыграют с датчанами вничью, более результативную, чем 1:1, итальянцы останутся третьими в группе, вне зависимости от того, с каким счетом они обыграют болгар.

Тренер итальянцев Джованни Трапаттони присоединился к мнению Вьери, сказав, что итальянские журналисты слишком уж резко пишут о его команде. Кристиан Вьери высказался еще более определенно: "Вы смешиваете нас с грязью с утра до ночи".

**Подготовил к печати Виталий ГАРБУЗОВ.**

**ПРАГНОЗ**

*Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ:*

## «На Алімпіядзе беларусы заваююць 14 медалёў. Гэта максімум»

На мінулым тыдні ў Мінску распачалася серыя прэс-канферэнцый з камандамі па тых відах спорту, прадстаўнікі якіх заваявалі алімпійскія ліцэнзіі. Журналістам раздалі спіс, дзе пазначаны кантактныя тэлефоны трэнераў і кіраўнікоў федэрацый. Як вядома, федэрацыю веславання ўзначальвае славуты спартсмен, дэпутат групы "Рэспубліка" **Уладзімір Парфяновіч,** які зараз, змагаючыся за ўнясенне змяненняў у Выбарчы кодэкс, удзельнічае ў галадоўцы. Пакуль невядома, калі адбудзецца прэс-канферэнцыя з удзелам грабцоў, як невядома і тое, ці запросяць на сустрэчу з журналістамі Уладзіміра Парфяновіча. Сам дэпутат кажа, што калі запросяць, то абавязкова прыйдзе: *"Чаму я не павінен прыходзіць? Я ж з'яўляюся кіраўніком федэрацыі, і таму, калі запрашэнне паступіць, то я абавязкова сустрэнуся з журналістамі".*

Дарэчы, як прызнаўся журналісту "Народнай волі" Уладзімір Уладзіміравіч, падчас галадоўкі яго моцна падтрымліваюць спартсмены.

Пра тое, што Аляксандр Лукашэнка паставіў беларускім спартсменам задачу заваяваць у Афінах 25 алімпійскіх медалёў, не ведае, як кажуць толькі лянівы. Ці рэальна гэта? Вось што думае на гэты конт трохразовы Алімпійскі чэмпіён Уладзімір Парфяновіч: *"Разумееце, ну няма каму "браць" 25 алімпійскіх узнагарод. Я прааналізаваў шанцы беларускіх спартсменаў і прыйшоў да высновы, што на Алімпіядзе ў Грэцыі беларусы змогуць заваяваць 14 узнагарод. І гэта максімум..."*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**СУД!**

## Ножом в сердце — и вся разборка

Трагически закончилось празднование дня рождения молодой гомельчанки в баре по улице Ирининской, что в самом центре города. Все было нормально и весело до 22 часов, когда знакомый именинницы вышел по "приглашению" представителя соседней компании Дмитрия Подтелкина на улицу для выяснения отношений. Как правило, подобные разборки в молодежной среде заканчиваются банальным мордобоем. На этот раз кулаков оказалось недостаточно — Дмитрий Неожиданно нанес оппоненту удар ножом в область сердца. Впоследствии судмедэкспертиза дала заключение — потерпевшему причинено проникающее ранение левой половины грудной клетки с повреждением аорты. После такого ранения шансов выжить у парня, несколько дней назад достигшего совершеннолетия, не осталось.

Прибывший через несколько минут милицейский наряд задержал спрятавшегося в подсобке бара убийцу с поличным — его рука все еще сжимала окровавленный нож.

Вердикт суда Центрального района Гомеля гласил — за умышленное убийство 22-летний бывший слесарь завода СЖБ-5 на одиннадцать лет изолирован от общества в исправительную колонию усиленного режима. В пользу родителей погибшего ему предстоит выплатить возмещение причиненного морального вреда в десять миллионов рублей.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

## Выстава-продаж твораў Васіля Быкава

Сёння 22 чэрвеня 2004 года з 13.00 да 18.00 у памяшканні Дома літаратара (Мінск, вул.Фрунзе, 5) Саюз беларускіх пісьменнікаў арганізуе ў памяць Народнага пісьменніка Беларусі В.У.Быкава выставу-продаж ягоных твораў, сярод якіх і новая кніга Васіля Уладзіміравіча "Парадоксы жыцця".

На выставе адбудзецца сустрэча з вядомымі беларускімі пісьменнікамі і паэтамі.

Для тых, хто неабыякавы да спадчыны В.У.Быкава, будзе арганізаваны збор ахвяраванняў для ўшанавання памяці славутага пісьменніка.

**Тэлефон для даведак 236-50-69 (Беллітфонд).**

**22**

**чэрвень**

**АЎТОРАК**
Усх. 4.38 Зах. 21.46
Даўж. дня 17.08
Першая квадра
25 чэрвеня

**140 гадоў** з дня нараджэння Г. Мінкоўскага (1864—1909), матэматыка, фізіка, прадстаўніка гётынгенскай матэматычнай школы, ураджэнца мястэчка Аляксоты Мінскай губерні

**125 гадоў** з дня нараджэння Ю.М. Дрэйзіна (1879—1942), музыказнаўца, публіцыста, перакладчыка

**85 гадоў** з дня нараджэння З.С. Мяньшовай, беларускага мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва





---

## Вторник, 22 июня

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 19.00, 23.35** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!"
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**09.05** Футбол. Чемпионат Европы. Хорватия—Англия.
**10.55** "100 шагов к Олимпу".
**11.05** "Брестская крепость". Док.фильм.
**12.10** "Зона Икс".
**12.25, 19.25 "Государственная граница".** Сериал.
**13.40** "Эхо прошедшей войны". Видеофильм АТН.
**14.05 "Парень из нашего города".** Худ.фильм.
**15.45** "Памятник". Док.фильм.
**16.05** "5х5".
**16.50** "Памяти Василя Быкова". Видеофильм АТН.
**17.05 "Круглянский мост".** Драма.
**18.25** Футбол. Дневник чемпионата Европы.
**19.05** "Общественная безопасность".
**20.45** "Специальный репортаж".
**21.00** "Панорама".
**21.00** Футбол. Чемпионат Европы. Италия—Болгария. Прямая трансляция.
**23.40** Футбол. Чемпионат Европы. Дания—Швеция. Прямая трансляция.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.20** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55** "Дисней-клуб". "Мышиный дом".
**14.00 "Я — русский солдат".** Драма.
**15.50 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**20.00** "Время".
**21.05 "Черный ворон".** Сериал.
**22.15 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.35** "Не только о футболе".
**00.00** "Потерпевшие победу". Док.фильм.
**00.45** Футбол. Чемпионат Европы. "Португальские тайны".

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55 "Бедная Настя".** Сериал.
**08.40** "Короткое замыкание".
**09.40, 20.55** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50, 17.05 "Команда".** Сериал.
**11.50 "Ундина".** Сериал.
**16.10 "След оборотня".** Сериал.
**18.00 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**21.15** "Вести +".
**21.35 "Экипаж машины боевой".** Драма.
**22.50** "Крылья над Берлином. Забытая операция". Док.фильм.
**23.45 "Сахар".** Комедия.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Площадь искусств".
**08.35** "Спутники "Сатурна". Док.фильм.
**09.35** "Свет далекой звезды".
**10.05, 18.25** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.25, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.10, 13.10** "Обычный необычный день".
**11.45 "Братушка".** Киноповесть.
**13.35** "Паучок, с которым никто не дружил", "Старая игрушка". Мультфильмы.
**14.10, 15.15** "Не зевай!"
**14.50 "Шутки в сторону".** Сериал.
**15.25** "Бум".
**15.50** "Голоса". Видеофильм о судьбе узников Брестского гетто.
**16.30** "Ностальжи".
**17.05 "Знак беды".** Военная драма.
**18.45 "Руины стреляют".** Сериал.
**19.50** "День длиною в жизнь".
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05 "На безымянной высоте".** Драма.

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Безымянная высота". Фильм Евгения Кириченко.
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол".
**18.40** "Мангуст". Жертвы прогресса". Сериал.
**19.45 "Желанная".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "Красная стрела".
**21.50 "Однажды в Калифорнии".** Сериал.
**22.55 "Клан Сопрано".** Сериал.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.40** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Столичный футбол".
**08.55** "Добро пожаловаться".
**09.10** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.35 "Охотник".** Боевик.
**11.05** "Рассекреченный XX век". Док.фильм.
**11.30** "Пока горит свеча".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Под углом 23 с половиной градуса". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Ангел на дорогах".** Сериал.
**14.50 "Мятежный дух".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.00** "Журавлик". Мультфильм.
**16.10** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Крутой Уокер".** Сериал.
**18.15** "Телеафиша".
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш...".
**20.35** "Закон и криминал".
**20.55 "Удар из космоса".** Худ.фильм.
**23.20** "Игровой рефлекс".
**23.30 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.15** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.50, 17.00 "Моссад".** Сериал.
**08.00 "Корона Российской Империи".** Приключенческий фильм.
**09.20, 21.00** "К-видео" — "Топ-8".
**09.30** "Академия жизни".
**09.45, 19.50 "Полиция Гамбурга".** Сериал.
**10.45, 21.10 "Жизнь прекрасна".** Комедия.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.50, 20.40** "Телемагазин".
**18.00 "Белорусский вокзал".** Драма.
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Танк "Клим Ворошилов-2".** Драма.
**09.30** "Одна из 10.000".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Момент истины".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** "Как добиться успеха. Доктор Богданов".
**14.30** "Я — мама".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30 "Ванька-встанька".** Драма.
**17.15** "Очевидное-невероятное".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.05** "Синий платочек".
**20.35** "Дикая история".
**21.40** "Отдел "Х".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "По закону".** Сериал
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**08.00, 09.30, 10.00, 13.30, 17.30** Футбол. Команды ЕВРО-2004.
**08.30, 00.15, 01.30** Футбол. ЕВРО-2004.
**10.30** Легкая атлетика. Кубок Европы в Польше.
**12.15** Эстафета олимпийского огня.
**12.30, 16.30** Футбол. Легенды чемпионатов Европы.
**14.00** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**14.30** Спидвей. Гран-при Уэльса.
**15.30, 21.15** Бокс. Международные соревнования.
**18.00** Снукер.
**20.00** Автогонки НАСКАР. Этап Кубка Некстела в США.
**21.00** Новости футбола.
**23.45** "Цель — Афины".
**01.15** Новости "Евроспорта".



**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 530 экз. Заказ № 673.